# Пакліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №7 (117)
ТРАВЕНЬ 2012 ГОДА


**"Пакліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ЧАМУ НЕ НАВУЧЫЛА ПЕРАМОГА

**Другая сусветная для тутэйшага насельніцтва – Вялікая Айчынная! Гэткім чынам агульная перамога міжнароднай супольнасці над фашысцкай Германіяй на працягу 67 гадоў прыватызуецца спачатку савецкім, а зараз рэжымамі Лукашэнкі ды Пуціна. І робіцца гэта, відавочна, для нейкіх сваіх палітычных, каньюктурных мэтаў, а не дзеля нейкай там гістарычнай праўды. Прычым у заявах тутэйшага кіраўніка дзяржавы значэнне гэтае перамогі набывае нейкае хваравіта-напышлівае аблічча. Маўляў, мы ўратавалі і амерыканцаў і брытанцаў, за што тыя мусяць нам быць ўдзячнымі ажно да нашага супольнага скону. Вось так: не больш і не менш.**

Штогадовы традыцыяналізм адзначэння гэтае даты ў знешніх сваіх праявах па-ранейшаму захоўвае савецкую відовішчнасць, хаця адначасна становіцца і менш шчырым ды фармальным, бо для бальшыні насельніцтва гэтая падзея з-за яе аддаленасці ў часе ўспрымаецца ўсё менш асэнсавана. Раней гэтаму асэнсаванню замінала савецкая ідэалогія, а зараз постсавецкі рэванш існага тут рэжыму.

Як ні крыўдна, але ж праўда пра вайну патрэбная хіба што вузкім спецыялістам ды зацікаўленым аматарам. Прычым гэтая праўда таксама атамізуецца ў залежнасці ад асабістых староннасцяў таго ці іншага чалавека: адны займаюцца пошукавай працай і пахаваннем парэшткаў салдатаў тае вайны, іншыя калекцыянуюць нейкія рэчы, спецыялісты гісторыкі вывучаюць нейкія канкрэтныя эпізоды вайны…, а тутэйшы рэжым папросту паразітуе на застарэлых ідэалагічных стэрэатыпах, абы адцягнуць сваю агонію.

А вось абагуленае палітычна-філасофскае асэнсаванне прычынаў і наступстваў самага вялікага сусветнага канфлікту робіцца адзінкамі і не становіцца даступным грамадскасці. Разам з тым менавіта такое глыбокае асэнсаванне і патрэбна зараз тутэйшай супольнасці дзеля руху наперад. Вайна, як тыя ланцугі, па-ранейшаму трымае свядомасць насельніцтва ў вузкім коле местачковага, вузкалобага ўспрымання сучаснага светаўладкавання і ўзаемадачыненняў паміж грамадзянскай супольнасці і дзяржавай.

Мала сказаць: савецкі народ перамог у той вайне. Гэта ўсяго толькі палова праўды. Без грандыёзнай дапамогі міжнароднай супольнасці гэтая перамога запатрабавала б яшчэ больших ахвяраў.

Вельмі часта заходнія краіны папікалі і папікаюць за тое, што яны так доўга цягнулі з адкрыццём другога фронту. Але ж ніхто не гаворыць пра тое, што Чэрчылю для таго, каб высадзіць дэсант у кантынентальнай Еўропе, трэба было правесці рэферэндум і падрыхтаваць насельніцтва да немінучых чалавечых ахвяраў і вялізных эканамічных выдаткаў. Тутэйшае насельніцтва дасёння не можа ўцяміць, што Брытанія ці ЗША – гэта дэмакратычныя краіны, дзе грамадзяне не з'яўляюцца гарматным мясам, як гэта было ў СССР. Дзеля ўратавання сваёй будучыні англічане, напрыклад, вывезлі ў ЗША два мільёны сваіх дзяцей. І гэта гаворыць само за сябе.

Трэба сказаць і пра тое, што савецкі народ стаў не толькі ахвярай тае вайны, але і непасрэдна спрычыніўся да яе развязвання. 1 верасня 1939 года ён разам з немцамі распачаў вайну супраць Польшчы. І нельга вінавачіць у гэтым толькі сталінскі рэжым, маўляў, людзі тут ні пры чым. А можа і сённяшнія беларусы ні пры чым, што яны жывуць не ў дэмакратычнай краіне, а ў атарытарнай дзяржаве і не маюць вагароў уплыву на існую тут уладу, для якой, іхняя маўклівая згода з'яўляецца трывалым гарантам яе далейшага існавання.

Дык над чым жа найперш мусяць паразважаць грамадзяне Беларусі ў такі сакральны для іх дзень 9 траўня?

Мо праспеў час для думаючых людзей выйсці з таго хлусліва-пампезнага шэрагу ўбраных і плакуноў, якіх штогод прыганяе ўлада да набудаваных манументаў і абеліскаў, каб у чарговы раз пажаліцца ўсяму свету з нагоды перажытых нечалавечых цяжкасцяў. Ну, схадзілі, выказалі сваю жалобу, а далей што? Чаму ў такім разе не ўшаноўваюць памяць загінулых у фінскай вайне альбо ў Гішпаніі? Чаму не плачуць па загінулых пад Грунвальдам? А справа ў тым, што для існае ўлады гэтая вайна, як нейкая гіпертрафаваная масонская ложа, з той толькі розніцай, што заганяюць у яе яшчэ ў дзяцінстве, і дзе ўлучаць мазгі і разважаць табе ніхто не дасць, бо тады і ложа развалiцца і рэжым разам з ёю.

А самыя галоўныя высновы, якія можа зрабіць цвярозы чалавек у гэты дзень, – свабодны народ, нават не гледзячы на паразу, можа пазбыцца і рудыментаў фашызму і пабудаваць квітнеючую краіну, а ад народа і краіны СССР, якія тую перамогу здабылі засталіся адні аскепкі. І справа ў тым, што савецкія людзі так і не здолелі скарыстацца з тае перамогі, бо як былі яны рабамі ва ўласнай краіне , так і засталіся пасёння ў зусім іншай краіне.

І лёс сённяшніх ветэранаў выклікае не радасць за іхнюю " пабеду", а жаль за тое ў якіх умовах ім прыходзіцца дажываць свой век. За 67 гадоў так і не здолелі тутэйшыя людзі зразумець, што толькі свабода можа быць гарантыяй і ад войнаў, і ад здзекаў дзяржавы над сваімі грамадзянамі.

**Рэдактар.**

ВЯЗЕНЬ СУМЛЕННЯ

## Сяргей Каваленка аднавіў галадоўку

**Ад 8 траўня Сяргей Каваленка аднавіў галадоўку пратэста і высунуў новыя патрабаванні. Пра гэта «Народным навінам Віцебска» паведаміла жонка палітзняволенага Алена.**

Да патрабавання скасавання несправядлівага прысуду апазіцыянер дадаў яшчэ некалькі ўмоваў спынення галадоўкі: вызваленне усіх палітзняволеных і свабоду выкарыстання нацыянальнай сімволікі.

Спадар Каваленка аднавіў галадоўку ў той жа дзень, як яго вярнулі ў СІЗА-2 у Віцебску. «Прывезлі Сяргея ў Віцебскае СІЗА-2 знясіленага, абяскроўленага, у яго, відаць, цяжкая форма анеміі. Зараз фізічны стан яго такі, што ён павінен сур'ёзна лекавацца, а не знаходзіцца ў турме. У Навінках яго выцягнулі з крытычнага стана, але на сённяшні дзень стан здароўя такі, што жыццёва важныя органы патрабуюць сур'ёзнага лячэння», - кажа Алена Каваленка.

Па яе словах, Сяргей ужыў апошні сродак абароны чалавечай годнасці ва ўмовах зняволення - галадоўку - таму што быў зноў змешчаны ў тую установу, дзе перад судом супраць яго чыніліся правакацыі і здзекі.

**С. Серабро.**

ПАЛІТЫКА

## С. Каваленку этапавалі ў Магілёў

**Па словах жонкі Сяргей Каваленкі Алены ён этапаваны ў магілёўскую калонію №19. Нагадаем, што 18 мая Віцебскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу актывіста Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Сяргея Каваленкі на прысуд суда Першамайскага раёна Віцебска.**

27 лютага суд Першамайскага раёна пад старшынствам Алены Жук прызнаў Каваленку вінаватым ва ўхіленні ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі (арт. 415 КК). Гаворка ідзе аб пакаранні, вынесеным апазіцыянеру ў маі 2010 года за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай навагодняй ёлцы Віцебска, — тры гады пазбаўлення волі ўмоўна. Каваленка быў затрыманы 19 снежня 2011 года і з тых часоў знаходзіцца ў зняволенні.

Разгляд касацыйнай скаргі ў абласным судзе пачаўся 10 красавіка. Тады судовая калегія Віцебскага абласнога суда прыняла рашэнне накіраваць Каваленку на комплексную псіхіятрычную экспертызу ва ўмовах стацыянара. У выніку апазіцыянер быў накіраваны ў РНПЦ псіхічнага здароўя ў Навінках, дзе амаль на працягу месяца праводзілі экспертызу яго псіхічнага здароўя. Эксперты прызналі яго псіхічна здаровым.

Экспертыза была прызначаная ў сувязі з галадоўкай, якую Каваленка трымаў больш за два месяцы ў знак пратэсту супраць свайго арышту і падчас якой ён страціў амаль палову ўласнага вагі.

**Паводле Радыё Свабода.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## І рэклама, і дабрачыннасць

На адзін дзень супрацоўнікі фірмы «Капарол» змянілі дзелавыя гарнітуры на працоўную адзежу. Узброіўшыся пэндзлямі і фарбамі, яны правялі дабрачынны суботнік. На ідэю «Капарола» адгукнуліся архітэктары, рэстаўратары і праектоўнікі абласнога цэнтра.

На тэрыторыі Лужаснянскага храма Ўшэсця Госпадня працы хапіла ўсім: фарбавалі бардзюры, платы, наводзілі парадак на прылеглай тэрыторыі.

Мяркуючы па запале памагатых, працаваць ім не абвыкаць. Ды і падобны суботнік не першы ў працоўнай біяграфіі «капаролаўцаў». Летась дабрачынны дэсант высадзіўся ў музеі-сядзібе «Здравнёва», дзе добраўпарадкоўваў маёнтак вядомага жывапісца І. Рэпіна.

Гэтым разам правядзенне акцыі прымеркавалі да Міжнароднага дня аховы помнікаў і гістарычных месцаў.

**Ян Сведка.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Пакліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Пакліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Пакліч волі ».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

НАШЫ ЗЕМЛЯКІ

# КАЛІ ПРАЦА Ў РАДАСЦЬ

**Сельскі турызм у любой краіне – рэч запатрабаваная. У нас ён таксама даволі хутка набірае тэмпы і становіцца папулярным. Перавагі адпачынку ў вёсцы ўжо ацанілі і госці Мікалая Клюева з в. Гараднянскі Мох.**

Каб не проста арганізаваць свой бізнэс у вёсцы, а адшукаць сваё месца пад сонцам у сферы агратурызму, неабходна ўвесь час шукаць нешта новае.

У свой час прадпрымальны Клюеў з'ехаў у горад, аднак не пакінуў радавое гняздо. Побач з бацькаўскай хатай узвёў сваю сядзібу. Раней ён настаўнічаў у Сасноўскай школе, але апошнія дзесяць гадоў займаецца прадпрымальніцтвам. Яго прыватны гандлёвы бізнэс у глыбінцы прыносіць дывідэнды, але вялікая іх частка вось ужо два гады пускаецца ў агратурызм. Дачка Мікалая Пятровіча Алена падтрымлівае бацьку, які імкнецца зрабіць гасцінніцу мясцовым брэндам.

У маляўнічым месцы ёсць чым здзівіць наведвальнікаў: акрамя азёрнага абшару ў суседняй Сасноўцы сваёй веліччу дзівіць дуб-волат. Ды і тэрыторыя сядзібы Клюева з часам не будзе саступаць музею пад адкрытым небам. Рарытэтам на яго гасцінным падворку стала старадаўняя сячкарня. З часам вясковы каларыт будуць стварыць плугі і іншыя земляробчыя прылады працы, калёсы ператворацца ў цыганскі шацёр.

Гаспадар любіць прымаць у сябе гасцей. Найчасцей першымі ягоную гасціннасць ацэньваюць сябры Клюевых: шумныя і дружныя кампаніі даўно аблюбавалі мясцовую фазэнду.

Але, каб увесь час здзіўляць гасцей чымсьці новенькім напачатку прыйдзецца больш укладаць, чым атрымоўваць. Толькі сёлета плануецца асвоіць парадку 150 мільёнаў рублёў.

Кожны кавалачак зямлі тут мае сваё прызначэнне. Гонарам з'яўляецца рукотворная сажалка. Сваёй воднай роўняддзю яна цешыць гаспадара цэлы год. Плавае ў ёй карась, шчупак, плотка і іншая рыбіна, нават сярод адпачываючых жанчынаў знаходзяцца ахвотніцы закінуць вуду ў чаканні клёва. У планах – узяць ў арэнду, прылеглае да фазэнды гразкае месца, прыстасаваць пад вадаём і «засяліць» яго карпам, амурам, таўсталобікам. Тады і не толькі пра аматарскую рыбалку можна будзе падумаць…

Лодкі, у тым ліку і маторная, у прычала заміраюць хіба што толькі ўзімку. Адну з іх Клюеў збіраецца прыстасаваць пад выратавальную, так спакайней адпачываць на вадаёме мясцовага значэння – возеры Гародна. Для тых, хто няўпэўнена адчувае сябе на вадзе, Мікалай Пятровіч самастойна змайстраваў выратавальныя кругі, набыў камізэлькі. Забаўкі ў вады на любы густ і ўзрост: катамараны, надзіманыя гульнявыя комплексы.

Ды і на сушы нудзіцца не прыйдзецца. Для актыўнага адпачынку – валейбольная пляцоўка, для аматараў папесціцца на сонцы – шэзлонгі. Для адпачывальнікаў, якія маюць аўто, прадугледжана аўтастаянка на 150 месцаў, менавіта над яе добраўпарадкаваннем цяпер працуе прадпрымальны вясковец. У прыбярэжнай зоне з'явяцца смеццевыя кантэйнеры, якія прыватнік набыў за ўласныя сродкі.

Паралельна з увасабленнем маштабнага праекта ў жыццё вядзецца праца па рамонце хаткі для гасцей.

На спадчыннай зямлі Мікалай Клюеў засявае і гарод з экалагічна чыстай прадукцыі, каб было чым накрываць стол гасцям.

Аграўсадзьба Клюева становіцца візітовай карткай не толькі сяла, але і ўсяго сельсавета.

**Якаў Дрозд.**

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# КІРАЎНІК ВІЦЕБСКАЙ ФІЛІІ "МОЛАДЗІ БНФ" АСПРЭЧВАЕ ШТРАФ

Аляксандар Кузьняцоў, кіраўнік віцебскай філіі "Моладзі БНФ", ня змог трапіць на сход ініцыятывы Дзьмітрыя Вуса, які адбыўся 1 траўня ў Менску. Яго затрымалі супрацоўнікі ДАІ, абвінавацішы ў парушэньні правілаў дарожнага руху – пераходзе дарогі ў неналежным месцы. Актывіст падаў у Першамайскі суд Віцебску скаргу на незаконныя дзеяньні супрацоўнікаў ДАІ, якія запатрабавалі, каб Кузьняцоў заплаціў 150 тысяч штрафу.

Атрымаўшы паперу пра неабходнасьць сплаціць штраф, Аляксандар Кузьняцоў заявіў, што ня толькі не зьбіраецца гэтага рабіць, а яшчэ і плянуе спагнаць зь міліцыянтаў грошы за квіток на цягнік да Менску, зь якога ён не скарыстаўся: "1 траўня мяне затрымалі на тралейбусным прыпынку, калі я зьбіраўся ехаць на вакзал. Яшчэ выходзячы з пад'езду, я заўважыў, што на прыпынку стаіць міліцэйская машына. Першая думка: гэта па маю душу".

"Але вырашыў рызыкнуць ды ісьці на прыпынак. Там да мяне адразу ж падышлі супрацоўнікі міліцыі, затрымалі. Склалі адміністрацыйны пратакол пра тое, што я нібыта перайшоў вуліцу ў неналежным месцы. Адпусьцілі толькі каля 7:30, і менскі цягнік у 6:40 пайшоў безь мяне. Я лічу, што мае правы парушаныя: мяне незаконна абвінавацілі ў парушэньні ПДР – пэўна, проста каб я ня трапіў у Менск на імпрэзу". Аляксандар Кузьняцоў быў адным зь некалькіх дзясяткаў актывістаў, якія мусілі быць на сходзе ініцыятывы Дзьмітрыя Вуса па зьмяненьні выбарчага заканадаўства і якіх 1 траўня затрымалі з розных нагодаў.

**Ян Сведка.**

ЕЎРАСАЮЗ БЕЛАРУСІ

# Транссумежнае супрацоўніцтва

**Праграму транссумежнага супрацоўніцтва Латвія – Літва – Беларусь, якая дзейнічае ў рамках Еўрапейскай інструманта добрасуседства і партнёрства, плануе рэалізаваць сёлета Ноўкінская сярэдняя школа з установай адукацыі Земгале муніцыпалітэта Даўгаўпілскага раёна Рэспублікі Латвія.**

З гэтай мэтай распрацаваны сумесны міжнародны праект «Пашырэнне патэнцыйных магчымасцяў у сферы адукацыі з дапамогай стварэння двухбаковай сеткі супрацоўніцтва «Земгале – Ноўка», якому ў канцы кастрычніка мінулага года прысуджаны грант ад Еўрасаюза.

Бюджэт праекта, разлічанага на два гады, на ўзроўні 56228 еўра. Гэта як сродкі раённага бюджэту ў рамках асігнаванняў, прадугледжаных на чарговы фінансавы год раа па галіне «Адукацыя», так і замежная бязвыплатная дапамога, прадстаўленая па выніках складзенага кантракту на вылучэнне гранта. Яна будзе скарыстана для рэалізацыі навукова-даследчых праграм, на абсталяванне астранамічнай пляцоўкі на даху будынка Ноўкінскай школы. Сучасным кампутарнай і мультымедыйнай тэхнікай, праграмным забеспячэннем, макетамі нябесных целаў плануецца абсталяваць планетар. Гэта дазволіць павялічыць узровень адукацыйных паслуг, зацікавіць вучняў старэйшых класаў вывучэннем прадмета «Астраномія», залучыць школьнікаў у навуковую дзейнасць, якая прадугледжвае іх удзел у абласных і рэспубліканскіх конкурсах даследчых працах, алімпіядах.

У 2011-ым да «паўналецця» школы на базе ўстановы адукацыі ўжо адкрыўся трэці ў вобласці навучальны планетар. Дацягнуцца шкалярам да зорак дапамагло ААТ «Рудакова», прэзэнтаваўшы тэлескоп, які з часам зойме годнае месца на назіральнай пляцоўцы на даху школы. Сёння на яго базе праводзяцца заняткі з навучэнцамі, якія жадаюць вывучаць астраномію на падвышаным узроўні.

І ўсё гэта, на мой погляд, было б вельмі добра, але ж справа ў тым, што ўся тутэйшая сярэдняя і вышэйшая адукацыя знаходзіцца далёка па-за асноўнымі прынцыпамі еўрапейскай і сусветнай адукацыі, з нагоды чаго Беларусь да сённяшняга часу, у адрозненні ад усіх сваіх найбліжэйшых суседзяў, не прынятая ў так званы Балонскі працэс. У адрозненні ад беларускіх навучэнцаў свабоднае і дэідэалагізаванае еўрапейскае навучанне, даравале нашым латыскім, літоўскім і эстонскім сябрам лёгка інтэгравацца ў вялікі свет еўрапейскай культуры.

Можна, канечне, на халяву атрымоўваць еўрапейскія гранты і спрыяць такім чынам падрыхтоўцы нейкіх вузкіх спецыялістаў, але ж гэта не дапаможа тутэйшым школьнікам стаць вольнымі людзьмі, якім іхнія настаўнікі не навязваюць нейкія ідэалагічныя забабоны, а даюць магчымасць самім абраць свой шлях да свабоды.

**Янка Жыхар.**

ГРАМАДСТВА

# Наперадзе вакацыі

**Штогод перад пачаткам вакацый перад шматлікімі бацькамі ўстае пытанне: куды падзець на лета сваё дзіця, каб не перажываць потым на працы, як праводзіць вольны час сын альбо дачка… Добры варыянт баўлення часу – аздараўленчы лагер, дзе дзятва будзе не проста пад наглядам старэйшых, але і паправіць здароўе. Вакацыі з «Клопатам» абяцаюць і праваахоўнікі.**

З мэтай папярэджання безнагляднасці і правапарушэнняў непаўналетніх, арганізацыі вольнага часу дзяцей і забеспячэнні кантролю за іх паводзінамі ў летні перыяд з 1 траўня па 1 верасня дзейнічае міжведамасная адмысловая праграма «Клопат».

Актуальнасць мерапрыемстваў абумоўлена яшчэ і тым, што за чатыры месяцы сёлетняга года падлеткамі здзейснена 11 злачынстваў, 9 з якіх крадзяжы. На прафілактычным уліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх знаходзяцца 77 падлеткаў. У дачыненні да 15-гадовай жыхаркі аг. Ноўка і яе аднагодкаў у пракуратуру і суд раёна прадстаўлены хадайніцтвы пра накіраванне непаўнагадовых злачынцаў, якія здзейснілі крадзяжы, у адмысловую навучальна-выхаваўчую ўстанову зачыненага тыпу.

На жаль, канстатуюць праваахоўнікі, гэта не адзінкавыя выпадкі. Са студзеня па травень на малалетніх правапарушальнікаў складзена 95 адміністрацыйных пратаколаў, што на 32 больш у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Часцяком непаўналетніх прыцягваюць шумныя кампаніі, дзе піва льецца ракой і за курэнне не атрымаеш пстрычку. А яшчэ колькі не паўтараюць падлеткам пра вывучэнне азбукі дарожнай бяспекі, 40 «невукаў» усё адно былі затрыманы за парушэнне правілаў дарожнага руху. І як толькі прымудраюцца нарабіць столькі правапарушэнняў, бо ў кожнай установе адукацыі на стэндах змешчана неабходная прафілактычная прававая інфармацыя. Штотыдзень праводзяцца рэйды і адпрацоўкі тэрыторый, якія прылягаюць да гандлёвых аб'ектаў, навучальных установаў, месцаў неарганізаванага адпачынку падлеткаў у мэтах папярэджання безнагляднасці непаўналетніх, а таксама незаконнага занятку імі прадпрымальніцкай дзейнасцю.

Энергію маладосці супрацоўнікі ІСН прапануюць накіраваць у грамадска-карысные рэчышча, да прыкладу, запісацца ў добраахвотніцкія лагеры. У райаддзеле адукацыі абнадзейваюць: месцаў усім хопіць. Акрамя добраахвотніцкіх, гэтым летам на базе школ будуць функцыянаваць 20 лагераў з дзённым знаходжаннем. Яны гасцінна адкрыюць свае дзверы для 850 дзяцей.

Ужо ў другі дзень лета адкрые аздараўленчы сезон «Спартаковец», размешчаны ў в. Барвін Пераваз. Тут чакаюць прыезду 270 хлапчукоў і дзяўчынак. Калі педагогі абяцаюць адпачынак непаўналетніх зрабіць цікавым і насычаным, то праваахоўнікі – бяспечным. Штодня кругласутачна будзе задзейнічаны асабовы склад РАУС для аховы грамадскага парадку ў лагеры «Прамень», што ў в. Шэвіна. «Педагогі ў пагонах» будуць частымі гасцямі ва ўсіх месцах масавага адпачынку непаўнагадовых. Запланаваны розныя спартовыя і грамадзянска-патрыятычныя мерапрыемствы, каб не да дурасцяў было дзятве.

У перыяд летніх вакацый будзе забяспечана першараднае занятасць навучэнцаў з малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў, дзяцей, якія знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, непаўналетніх, якія стаяць на ўліку ў ІСН, у аздараўленчых, працоўных лагерах і сельскагаспадарчых брыгадах …

**Янка Жыхар.**

НАША СПАДЧЫНА

# Гісторыя занядбанай вёскі

**Гэтай вёскі няма на карце, і шмат хто лічыць гэта месца урочышчам. Але гэта не зусім так. Сіманы – далёкі канец в. Пукшына Янавіцкага пассавету, сягоння там некалькі хат, а раней вельмі вядомае гістарычнае і прамысловае месца.**

Вядома яно, прынамсі, дзесьці з другой паловы XVIII стагоддзя. Месца было зручным і даволі прыгожым: ціхая рачулка Вымнянка ў сярэдняй плыні, лес, поўны ягад, грыбоў, птушак і звярэй, урадлівыя землі навокал і вялікая дарога паблізу, так званы «Парэчацкі гасцінец» – найпростая дарога з Віцебску на Маскву, у абыход Смаленску.

У Сіманах была некалі вадзяная плаціна і млын, пабудаваны мясцовым суражскім маршалкам, бацькам Рафаіла Прыслужніка-Багдановіча. Дзе плаціна, там і мост. Да таго ж ледзь ніжэй – зручны брод і цяпер існы.

Рафаіл Прыслужнік-Багдановіч быў добрым гаспадаром. Ён прыкупіў зямлю адной са шматлікіх латыфундый Льва Сапегі каля мястэчка Янавічы – цяпер в. Маёнтак, усяго ў 3 км ад Сіманаў. Пашырыў, умацаваў свае валадарствы, пабудаваў млын, бровар (в. Півавары), цагельню і г. д.

Асабліва клапаціўся ён пра млын. З усёй акругі сюды звозілі малоць збожжа. Там жа пазней была створана і сукнавалка. Млын праісnаваў паўтара стагоддзя і шмат прынёс людзям карысці.

Аднак млын доўга капітальна не рамантаваўся, драўляныя часткі яе ладна падгнілі і струхлелі. А ў 1958 г. здарылася вялікая паводка. Млын знесла. У той год шмат здарылася бяды. Тады не толькі млыноў шмат было знішчана, але і мастоў. На Касплe плылі сарваныя з падмуркаў лазенкі і хлявы, на дахах якіх весяла спявалі дурныя пеўні.

Доўга яшчэ жыў за ракою стары млынар Зуеў, які тужыў, што млын не аднавілі.

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# ЯКІЯ ПАРАДКІ ЧАКАЮЦЬ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ Ў «БЕЛЫМ ЛЕБЕДЗІ»?

ДЛЯ АДБЫЦЦЯ ПАКАРАНЬНЯ АКТЫВІСТА КХП БНФ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ ЗЬМЯСЦІЛІ Ў МАГІЛЁЎСКУЮ КАЛЕНІЮ № 19, ВЯДОМУЮ Ў НАРОДЗЕ ЯК БЫЛЫ ЛТП «БЕЛЫ ЛЕБЕДЗЬ».

21 траўня маці вязьня Лідзія Каваленка атрымала ў віцебскай управе Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў зьвесткі пра тое, куды накіравалі яе сына Сяргея для адбыцьця пакараньня:

19 траўня Сяргея Каваленку накіравалі па этапе зь Віцебскага СІЗА, але куды дакладна — не паведамлялі. Сёньня апоўдні жонка Сяргея Каваленкі Алена ўжо званіла ў Магілёўскую 19-ю калёнію, дзе ёй пацьвердзілі, што яе муж там: «Я ўжо туды тэлефанавала сама. Там ён. Але падрабязна яны нічога не распавялі. Ані пра стан здароўя, ані пра галадоўку. Толькі сказалі, што ў іх, у карантыне». Больш пэўныя зьвесткі пра стан здароўя мужа і тое, ці працягвае ён галадоўку, Алена Каваленка спадзяецца атрымаць ад адваката.

Якія ўмовы ўтрыманьня чакаюць Сяргея Каваленку ў 19-й Магілёўскай калёніі?

У гэтай калёніі летась цягам некалькіх месяцаў адбываў пакараньне былы кандыдат на прэзыдэнта Дзьмітрый Вус. Дзьмітрый Вус узгадвае: «Раней там быў лячэбна-працоўны прафілякторый. „Белы лебедзь“ клічуць гэтую калёнію, як раней называлі ЛПП. Там нават ёсьць скульптура лебедзя, яшчэ захавалася на тэрыторыі. Начальнікам калёніі там Чарноў, калі не замянілі. Вязьні працуюць на дрэваапрацоўцы, зьбіваюць паддоны. Ёсьць швачны цэх, ёсьць цэх, дзе плятуць гамакі. Мне там давялося працаваць. Але заробкі там вельмі малыя. Па 10 тысяч. Толькі на швачнай вытворчасьці, калі добра працаваць, можна зарабіць тысяч 100 — гэта максымум».

ЭЎРАЗВЯЗ ПРА НАС

# СПАЧАТКУ ВЫЗВАЛЕННЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ, ПОТЫМ – ДЫЯЛОГ

НІЯКІ ЗМЯСТОЎНЫ ДЫЯЛОГ З УЛАДАМІ БЕЛАРУСІ НЕМАГЧЫМЫ, ПАКУЛЬ НЕ БУДУЦЬ ВЫЗВАЛЕНЫЯ І АДНОЎЛЕНЫЯ Ў СВАІХ ПРАВАХ УСЕ ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗНЯВОЛЕНЫЯ. АБ ГЭТЫМ ЗАЯВІЛА БЕЛАПАН КІРАЎНІК ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕС МАЙРА МОРА, КАМЕНТУЮЧЫ ВЫКАЗВАННІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ, ЯКІ АБВІНАВАЦІЎ ЗАХАД І АПАЗІЦЫЮ Ў ЗРЫВЕ ДЫЯЛОГУ З УЛАДАМІ.

«Пасля мер дзеля здушэння грамадзянскай супольнасці, палітычнай апазіцыі і незалежных СМІ, якія адбыліся пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, ЕС не заставалася нічога іншага, як прытрымлівацца жорсткай пазіцыі, — сказала Мора. — Застаючыся прыхільнікам палітыкі крытычнага ўзаемадзеяння, у тым ліку праз дыялог і Усходняе партнёрства, Рада замежных справаў 31 студзеня 2011 года вырашыла аднавіць абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі. Адначасова ЕС узмацніў сваё ўзаемадзеянне з беларускім народам і грамадзянскай супольнасцю праз умацаванне падтрымкі грамадзянскай супольнасці і ахвяр рэпрэсій».

«Еўрасаюз прапанаваў Беларусі пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі і пачаў дыялог з беларускім грамадствам аб мадэрнізацыі. Аднак ніякі змястоўны дыялог з уладамі немагчымы, пакуль не будуць вызваленыя і адноўленыя ў сваіх правах усе палітычныя зняволеныя, якія засталіся. ЕС гатовы паляпшаць і паглыбляць свае адносіны з Беларуссю. Для ЕС Беларусь — важны сусед, неад'емная частка еўрапейскай спадчыны і еўрапейскай супольнасці нацый. Для Беларусі ЕС — адзін з асноўных гандлёвых партнёраў і важны партнёр у галіновым і рэгіянальным развіцці. ЕС па-ранейшаму гатовы дапамагаць Беларусі ў справе дэмакратызацыі і мадэрнізацыі», — падкрэсліла Мора.

**"Наша Ніва".**

ЧАРГОВАЕ ПАСЛАННЕ

# ЛУКАШЭНКА УЗБРОІЎСЯ ФІЛАСОФІЯЙ ВЯЛІКАГА ІНКВІЗІТАРА

***З трыбуны Авальнай залы Аляксандр Лукашэнка бліснуў цытатай з Дастаеўскага. Але звярніце ўвагу, што дасталі спічрайтэры з неабсяжнай спадчыны рускага класіка для тэксту штогадовага звароту да народа і парламента. Быў выдраны абрывак фразы аб тым, што «няма для чалавека нічога невыносней свабоды».***

***Так, у гэтым выступе 8 мая ў Доме ўрада гучалі і тэзісы аб разняволенні ініцыятывы, гатоўнасці вучыцца дэмакратыі. Але ключавой уяўляецца менавіта гэтая цытата. Філасофія беларускай улады чужая, антаганістычная такой фундаментальнай каштоўнасці, як свабода. Народ уяўляецца неразумным дзіцёнкам, за якога ўсё належыць вырашаць мудраму і ўсемагутнаму бацьку нацыі. І таму з Еўропай, багацце якой заснавана на волі, рэжым заўсёды будзе гаварыць на розных мовах.***

## Еўропе прапануецца грубы чэнж

І ўсё ж у выступе 8 мая відавочна заўважалася жаданне заміряцца з праклятымі буржуінамі. Як адзначыў у каментары для Naviny.by палітычны аналітык Юрый Дракахруст, «акцэнт, зроблены на адносінах менавіта з Захадам, з'яўляецца сігналам, што беларускага лідэра некалькі гняце аднабаковая інтэграцыя». У той жа час, падкрэсліваe наш суразмоўца, Лукашэнка «хацеў бы нармалізацыі адносін з ЕС і ЗША, зразумела, на ўмовах, блізкіх да яго пазіцыі запыту».

Запыт жа - дашчэнту прагматычны, зазямлены. Лукашэнка педалюе грубыя матэрыі, нагадваючы, што ў нас з ЕС вялікі аб'ём гандлю. Мэседж празрысты: прынцыпы прынцыпамі, але свабоду на хлеб не намажаш, а вы ж хочаце купляць нашу салярку, калій ... Яшчэ кіраўнік Беларусі падкрэсліў, што «нельга забываць аб іншых сферах нашага ўзаемадзеяння: спыненні нелегальнай міграцыі, наркатрафіку, кантрабанды, уключаючы незаконны абарот ядзерных, радыеактыўных матэрыялаў, зброі».

Вельмі адчувальны для слабанервных бюргераў набор кодавых слоў! Для ўзмацнення эфекту бумеранга ў адказ на санкцыі Мінск нядаўна нават злёгку папугаў заходніх суседзяў тым, што аслабляе фільтраванне нелегалаў. Глядзіце, маўляў, будзеце залішне наязджаць на «апошнюю дыктатуру Еўропы» - захлынецца мігрантамі ды наркотай!

Інакш кажучы, рэжым ўпарта хоча навязаць сябе заходнікам такім, які ён ёсць. З гэтымі зацыкленымі на сваіх каштоўнасцях дзівакамі беларускія ўлады не супраць жыць мірна, аказваючы некаторыя паслугі і нават робячы дробныя саступкі, але пры жалезным умове: **не перашкаджайце кіраваць краінай так, як мы хочам!**

З выступу ў выступ вандруе рытарычнае пытанне: ну каму мы перашкаджаем? Крыштальная мара беларускага кіраўніцтва - каб Стары Свет і Штаты з ім змірыліся, як змірыліся з Назарбаевым ці Аліевым. Добра гэтым багацейчыкам - нафтавым Бурацiна!

Але сінявокай рэспубліцы па шэрагу прычын не так прывольна. На думку менскага аглядальніка-міжнародніка Андрэя Фёдарава, да замірэння з Еўрасаюзам і Вашынгтонам беларускага кіраўніка штурхае не альтруізм, не прыліў дабрадушнасці, а дзеянне двух непрыемных фактараў. Першы - асцярога, што Крэмль ўзмоцніць (а ён напэўна ўзмоцніць) прэсінг. Другі - патрэба ў заходніх грошах: крэдытах для аддачы ранейшых даўгоў, а таксама - інвестыцыі для мадэрнізацыі, адзначыў аналітык у каментары для Naviny.by.

## У Пуціна няма рэсурсаў задушыць

Пры гэтым для Лукашэнкі крытычна важна не пасварыцца з новым-старым гаспадаром Крэмля. Юры Дракахруст адзначае дзіўную скупасць паслання па частцы адносін з Расіяй і еўразійскай інтэграцыі: «Здавалася б, толькі ўчора заступіў на пасаду прэзідэнт саюзнай дзяржавы, які абвясціў стварэнне Еўразійскай саюза адным з прыярытэтаў свайго кіравання, у бліжэйшыя месяцы трэба будзе заключыць больш за 50 пагадненняў у рамках АЭП, якія ахопліваюць самыя разнастайныя сферы эканамічных адносін ... Аднак менавіта на гэтую тэму па сутнасці нічога не было сказана ».

Рызыкнем выказаць здагадку: Лукашэнка варожыць, як паводзе сябе Уладзімір Пуцін, наколькі рэзка паставіць пытанне платы па вэксалях гэтай самай еўразійскай інтэграцыі. Гэта псіхалагічнае напружанне, здаецца, прарвалася ў адказе Лукашэнкі на адзін з дэпутацкіх пытанняў. Маўляў, «калі нехта спадзяецца, што вось Пуцін прыйшоў - заўтра нас пачнуць душыць, пятлю на шыю накінуць, не дачакаюцца». Цікавая матывацыя: «Па-першае, для гэтага ў Пуціна няма рэсурсаў; па-другое, гэта сабе на шкоду».

Аналітыкі, аднак, прадказваюць трэння ўжо ў хуткім часе, і ў першую чаргу па частцы прыватызацыі. Лёгка расставацца з актывамі беларускае начальства не збіраецца. У гэтым плане паказальная завочная палеміка Лукашэнкі з нейкім неназваным «дзеячам у Расеі», які, маўляў, «вядучы перамовы аб акцыянаванні МАЗа, заявіў: Беларусь занадта вялікую цану заламала на перамовах».

«Не задавальняе - не хадзі сюды», - адрэзаў кіраўнік Беларусі. Пытанне, аднак, у тым, як тады выканаць ўмова атрымання крэдыту ЕўрАзЭС - прадаваць актываў на 2,5 мільярда даляраў у год. З расейцамі, як бачым, размова будуецца па прынцыпе «... а тытунь паасобку»; заходнікі ж па вядомых прычынах на беларускія прадпрыемствы не накінуцца.

## Ціхае спаўзанне ў Азіёпу

Лукашэнка не казаў адкрытым тэкстам аб вызваленні палітвязняў, што з'яўляецца галоўным патрабаваннем Еўрасаюза, але даручыў ураду «аператыўна падрыхтаваць праект закона аб амністыі, якую мы зможам прымеркаваць да нашага галоўнаму дзяржаўнаму святу - Дню незалежнасці». Такі шырокі жэст дазволіў бы уладам захаваць твар, раствараючы вызваляюцца палітвязняў («нягоднікаў», як выказаўся афіцыйны лідэр) у масе «годных людзей».

У адказ ЕС мог бы замарозіць, а потым і адмяніць санкцыі супраць рэжыму. Гэта значыць адкрутка адносін да стану на 18 снежня 2010 года, за дзень што ўміг паламаў ўсе разгон Плошчы, рэальная. Але не больш. Паводле прагнозу Андрэя Фёдарава, гэта будзе стабілізацыя на нізкім узроўні, «нейкі варыянт халоднага свету».

Аднак Менску патрэбныя заходнія грошы. І калі тут спадзяюцца на прыліў даляраў-еўра-фунтаў асабліва ў абмен на тое, што ў сінявокай рэспубліцы «зноў не б'юць і не саджаюць за палітыку», то могуць пралічыцца, мяркуе Фёдараў.

Лукашэнка павесіў на апазіцыю і Захад зрыў планаў ўнутранай лібералізацыі. Прызнаўся, што пару гадоў таму ў вярхах абмяркоўвалася рэформа выбарчай сістэмы, разглядаўся варыянт выбараў у парламент па партыйных спісах.

Асобнае пытанне: чаму дрўзьлы, не схільны да рэзкіх рухаў Еўрасаюз, які абяцаў за большменш прыстойнае правядзенне прэзідэнцкіх выбараў 2010 года тры мільярды еўра, стаў раптам душыць? Гэта трэба было моцна паспрабаваць, беспрэцэдэнтна раскруціўшы махавік рэпрэсій, пасадзіўшы за краты на вялікія тэрміны больш чатырох дзясяткаў «дзекабрыстаў», у тым ліку некалькіх экс-кандыдатаў; зачысціўшы ў краіне ўсё, што яшчэ варушылася.

Але галоўнае пытанне вось у чым: а каму патрэбныя рэформы ў Беларусі? З кантэксту паслання выходзіць, што Брусэлю ды Вашынгтону. Але па справе краіну даўно варта апгрэйдзіць дзеля выратавання яе будучыні. Інакш - лёс паўкалоніі, вечнага прыдатка, змрочнай тэрыторыі на абочыне цывілізаванага свету.

Гэта не Захад загубіў працэс, гэта незмяняльная кіруючая вярхушка прыносіць у ахвяру перспектывы Беларусі дзеля пралангацыі свайго панавання. Пры нязменнасці «беларускай мадэлі» шлях адзін - «паўзучая, з воплескамі свавольства, але няўмольная інкарпарацыя ў Расію, ціхае спаўзанне ў Азіёпу», прагназуе Андрэй Фёдараў.

**Краіна ўперлася ілбом ў сцяну несвабоды - эканамічнай, палітычнай, духоўнай.** Улада спрабуе апраўдаць сваю замшэласць інтрыгамі ворагаў і нібыта негатоўнасцю беларусаў да жыцця без пугі.

Лукашэнка, як вядома, нават перасунуў пасланне, каб спічрайтэры дапрацавалі. Яны, трэба меркаваць, і вывудзілі цытату з Дастаеўскага аб нязноснасці волі. Стараліся, але, як прымеціла публіцыст Святлана Калінкіна, падставілі шэфа. Бо гэта не Дастаеўскі сказаў. У «Братах Карамазавых» гэтыя словы гучаць з вуснаў Вялікага інквізітара ў спрэчцы з Хрыстом. Які ўдар з боку класіка!

**Аляксандр Класкоўскі, БелаПАН.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# МІЛІНКЕВІЧ ПРА ЎРАД У ВЫГНАННІ: «НЕ БАЧУ СЭНСУ»

ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ», КАНДЫДАТ АД АБ'ЯДНАНАЙ АПАЗІЦЫІ НА ВЫБАРАХ 2006 АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ — ПРА ІНІЦЫЯТЫВУ УЛАДЗІМІРА БАРАДАЧА АБ УРАДЗЕ Ў ВЫГНАННІ.

«Лёс Беларусі вырашаецца толькі ўнутры Беларусі. Не ў Варшаве, ці Вільні. Трэба працаваць з грамадством тут. Я не бачу сэнсу ў такі прапановах. Усё, што магчыма рабіць з-за мяжы, і так робіцца.

Канечне, у апазіцыі ёсць праблемы. Яна маргіналізуецца і раздробленая, ад 2007 няма лідара, але іх не вырашаць такія штучныя ўтварэнні, як урад у выгнанні. Паўтаруся, што трэба рабіць усё магчымае менавіта тут.

Ад такога ўрада будзе, безумоўна, шкода беларускаму народу. Прапаганда таксама скарыстае гэта ў сваіх мэтах, што апазіцыя на замежныя грошы працуе за мяжой.

Гэта таксама выгадна і Маскве, калі апазіцыя з'едзе за мяжу».

***Чытаць цалкам*** **http://nn.by/?c=ar&i=73639**

НАШЫ ЗАРОБКІ

# ЧЫМ РАСПЛАЦЯЦЦА БЕЛАРУСЫ ЗА 500-ДАЛЯРАВУЮ ЗАРПЛАТУ?

ТЭМПЫ РОСТУ ЗАРПЛАТЫ ЗА ПЕРШЫЯ ТРЫ МЕСЯЦЫ ДЭМАНСТРУЮЦЬ, ШТО ПРЫ ЖАДАННІ ЎЛАДЫ МОГУЦЬ ДА КАНЦА ГОДА НАВАТ ПЕРАСЯГНУЦЬ ДАКРЫЗІСНЫ ЎЗРОВЕНЬ ЗАРПЛАТЫ Ў 500 ДАЛЯРАЎ. АЛЕ ЦІ ВЫТРЫМАЕ ТАКУЮ НАГРУЗКУ ЭКАНОМІКА?

«Нам ўсё ж такі на ўзровень 500 долараў да канца года трэба выходзіць, як мы і дамаўляліся», - заявіў Аляксандр Лукашэнка ў чацвер, прымаючы з дакладам старшыню Федэрацыі прафсаюзаў Леаніда Козіка. Тым часам сярэдняя заработная плата па краіне ў сакавіку дасягнула амаль 400 даляраў (395), і вырасла ў параўнанні з сярэдняй зарплатай у студзені на 50 даляраў.

Сваю ролю ў гэтым згуляў не толькі намінальны рост рублёвай заработнай платы (амаль на 280 тысяч рублёў або на 10%), але і ўмацаванне курсу - на канец студзеня ён складаў 8370 рублёў за даляр, а сакавіцкую зарплату мы пералічвалі ўжо па «акругленаму» курсе у 8000 рублёў.

Такіх тэмпаў цалкам дастаткова, каб да канца года дасягнуць і нават перасягнуць планку ў 500 даляраў пры «які стаіць курсе». Калі ж дадаваць па 50 даляраў, то з дакрызіснай зарплатай можна ўжо «выходзіць» на парламенцкія выбары, якія, як плануецца, пройдуць у верасні.

Асноўным пытаннем росту даляравай заработнай платы з'яўляецца яе магчымае ўплыў на эканоміку і, перш за ўсё, фінансавую сферу. Бо, па меркаванні шматлікіх экспертаў, менавіта разгон зарплаты 2010 года паклаў на лапаткі фінансавую сістэму ў 2011 годзе.

Па выніках першага квартала 2010 года сярэдняя зарплата па краіне па сярэдняму за квартал курсе склала 357 даляраў супраць 364 даляраў у першым квартале бягучага года. Такім чынам, тэмп росту павінен быць прыблізна такім жа, як і ў 2010 годзе, пры практычна поўнай адсутнасці дэвальвацыі, што можа негатыўна адбіцца на стабільнасці фінансавай сістэмы.

### Бюджэт фарміруецца з дэфіцытам

Ужо сёння можна казаць аб уплыве росту заработнай платы на паказчыкі бюджэту. Рэспубліканскі бюджэт па выніках квартала фармуецца з дэфіцытам, прычым тэмп расходавання бюджэтных грошай на сацыяльную сферу (ужо выдаткавана амаль 23% ад плана) перавышае тэмпы выдаткаў на нацыянальную эканоміку (18,1%). Зрэшты, гэта дазволіла павялічыць разрыў у заработнай плаце ў такіх бюджэтных сферах, як адукацыю і ахову здароўя ў параўнанні з першым кварталам 2010 года. У адукацыі сярэдняя заработная плата за I квартал 2012 больш чым на 50 даляраў перавышае сярэднюю зарплату за I квартал 2010 года, у ахове здароўя - на 32 даляра. Хоць, адзначым, што дадзеныя Белстата за першы квартал 2010 дадзены па галінах эканомікі, а не па відах эканамічнай дзейнасці, па якіх Белстат лічыць заработную плату ў апошні час.

**Ірына Арлова, www.zautra.by**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖСЕКТАР: СКАРАЦІЦЬ НЕЛЬГА ПАКІНУЦЬ

БЕЛАРУСЬ СЁННЯ ДЭКЛАРУЕ, ШТО ПРАКТЫЧНА КОЖНАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА МОЖА БЫЦЬ ПРАДАДЗЕНА. АДНАК, ІСНУЮЦЬ ВЯЛІКІЯ СУМНЕВЫ, ШТО ЎЛАДЫ ПОЙДУЦЬ НА НЕЙКУЮ МАШТАБНУЮ ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ - ІСНУЮЧАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ МАДЭЛЬ, ЯК ПАКАЗВАЮЦЬ ФІНАНСАВЫЯ ПАКАЗЧЫКІ, ЦАЛКАМ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ПРАЦЫ ДЗЯРЖСЕКТАРА. ІНТЭРНЭТ-ГАЗЕЦЕ NAVINY.BY ЎДАЛОСЯ ДАВЕДАЦЦА, ЯКУЮ РОЛЮ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ ГУЛЯЮЦЬ СЁННЯ ДЗЯРЖПРАДПРЫЕМСТВЫ. ІХ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЗАПАТРАБАВАЛА Б КАРЭННАГА ПЕРАГЛЯДУ ЭКАНАМІЧНАЙ МАДЭЛІ, ЯКАЯ СКЛАЛАСЯ Ў КРАІНЕ.

### Эканоміка з дзяржаўным тварам

Каб ацаніць уплыў дзяржсектара на беларускую эканоміку, дастаткова зірнуць на тое, хто кантралюе ў краіне асноўныя аб'ёмы прамысловай вытворчасці.

У грашовым выражэнні, нагадаем, аб'ём прамысловай вытворчасці склаў у 2011 годзе амаль 337 трл. рублёў. У тым ліку, як атрымалася высветліць інтэрнэт-газеце Naviny.by, на долю дзяржсектара ў мінулым годзе прыйшлося больш за 70% прамысловай вытворчасці. Амаль 4000 дзяржаўных прадпрыемстваў (і арганізацый з доляй дзяржуласнасці), якія ўлічваюцца афіцыйнай статыстыкай, зрабілі ў мінулым годзе прадукцыі на 242,5 трлн. рублёў.

Паказальна, што найбольшы аб'ём прадукцыі вырабілі дзяржпрадпрыемствы Гомельскай і Віцебскай абласцей (адпаведна, на 61,4 трлн. і 50,9 трлн. рублёў), што заканамерна - у названых абласцях размяшчаюцца нафтаперапрацоўчыя заводы. Дарэчы, доля канцэрна «Белнафтахім», якому падведамных беларускія НПЗ, у агульным аб'ёме прамвытворчасці склала ў 2011 годзе 29,8%.

Яшчэ адна важная адметная асаблівасць беларускага дзяржсектара - высокая занятасць. У сценах дзяржпрадпрыемстваў, а таксама ў арганізацыях з дзярждоляй працавала ў 2011 годзе парадку 1,75 млн. чалавек. Гэта больш за палову (50,8%) ад спісачнай колькасці работнікаў ўсіх (за выключэннем суб'ектаў малога прадпрымальніцтва недзяржаўнай формы ўласнасці) беларускіх арганізацый.

Што тычыцца ўнёску дзяржсектара ў паказчыкі знешняга гандлю (экспарту), то тут важна ўлічваць адну акалічнасць. Асноўныя экспартныя патокі Беларусі ідуць праз арганізацыі, якія фармальна з'яўляюцца прыватнымі («Беларуская калійная кампанія», «Беларуская нафтавая кампанія»). Адсюль, дарэчы, вось такі парадокс: экспарцёрамі беларускіх нафтапрадуктаў з'яўляюцца ... суб'екты малога прадпрымальніцтва. У 2011 годзе гэтыя самыя суб'екты накіравалі на экспарт 13,27 млн. тон нафтапрадуктаў (усяго было экспартавана ў мінулым годзе 15,6 млн. тон нафтапрадуктаў).

### Дзяржсектар Беларусі: як ён працуе

Аднак прыведзеныя дадзеныя зусім не азначаюць, што ўсе дзяржаўныя прадпрыемствы здольныя генераваць прыбытак. Эксперты Сусветнага банка, прааналізаваўшыя становішча спраў у рэальным сектары эканомікі Беларусі, прыйшлі да высновы, што дзяржаўныя вытворчыя аб'яднанні дазваляюць маскіраваць стратнасць адных прадпрыемстваў за кошт прыбытку іншых.

«Вертыкальная інтэграцыя дазваляе маскіраваць неэфектыўнасць ўнутры дзяржпрадпрыемстваў, так як прыбытковыя кампаніі займаюцца крыжаваным субсідаваннем стратных», - гаворыцца ў даследчай працы экспертаў Сусветнага банка, прысвечанай становішчу дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў у машынабудаўнічай галіны Беларусі.

У сваёй працы, якая вясной гэтага года была апублікавана на сайце Сусветнага банка, эксперты падрабязна распісваюць схему, якая дазваляе неэфектыўным беларускім дзяржпрадпрыемствам жыць за кошт іншых.

Прааналізаваўшы дзейнасць машынабудаўнічых прадпрыемстваў, эксперты прыйшлі да высновы, што прыватныя і дзяржаўныя прадпрыемствы ва ўмовах Беларусі паводзяць сябе па-рознаму.

Калі падзенне попыту прыводзіць да падзення продажаў і прыбытку, гаворыцца ў даследаванні, прыватныя прадпрыемствы зніжаюць занятасць і аб'ёмы вытворчасці, павялічваючы тым самым прадукцыйнасць. «У той жа час дзяржпрадпрыемствы не зніжаюць колькасць занятых, і, такім чынам, калі зніжаецца іх прыбытак, зніжаецца і прадукцыйнасць», - адзначаюць у сваім даследаванні эксперты Сусветнага банка.

Паводле інфармацыі Naviny.by, да гэтага часу Сусветны банк падрыхтаваў новы краінавы эканамічны мемарандум, у якім як раз і разглядаецца эфектыўнасць прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў Беларусі. Па наяўнай інфармацыі, эксперты банка, прааналізаваўшы стан рэальнага сектара эканомікі Беларусі, прыйшлі да высновы, што нашай краіне варта пайсці на трансфармацыю дзяржсектара.

**Дзмітрый Заяц.**

ПРАПАНОВЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ ШУКАЮЦЬ ВЫХАД З ЗАКАНАДАЎЧАГА ТУПІКА

У БЕЛАРУСІ РАСПРАЦАВАНЫ ПРАЕКТ ЗАКОНА АБ ІНДЫВІДУАЛЬНЫМ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВЕ. АЎТАРАМІ ПРАЕКТУ ВЫСТУПІЛІ ЭКСПЕРТЫ РГА «ПЕРСПЕКТЫВА». ЯК РАСТЛУМАЧЫЎ NAVINY.BY КІРАЎНІК ГРАМАДСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ АНАТОЛЬ ШУМЧАНКА, «ЗАКАНАДАЎЧАЕ РЭГУЛЯВАННЕ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ Ў БЕЛАРУСІ ЗАЙШЛО Ў ТУПІК. ПРЫ ГЭТЫМ КОЛЬКАСЦЬ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ ЖАДАЮЧЫХ ПРАЦАВАЦЬ У БЕЛАРУСІ СКАРАЧАЕЦЦА З ГОДА Ў ГОД».

### Па шляху стагнацыі

Паводле экспертных ацэнак, з-за леташняга крызісу беларускі бізнэс страціў да 60% абаротнага капіталу. Нягледзячы на пазітыўныя тэндэнцыі ў эканоміцы ў гэтым годзе прадпрымальніцкі сектар стагнуе, што і пацвярджаюць дадзеныя афіцыйнай статыстыкі.

У студзені-сакавіку 2012 года колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў у Беларусі зменшылася на 5,4% у адносінах да аналагічнага леташняга перыяду і склала 246.155 чалавек.

Зніжэнне колькасці ІП адбылося ва ўсіх рэгіёнах, за выключэннем Мінска, дзе колькасць прадпрымальнікаў вырасла на 0,6% да 73 353. У Брэсцкай вобласці зарэгістравана 34.087 ІП (на 5,1% менш), у Віцебскай - 25.824 (на 12,5%), Гомельскай - 27 339 (9,8%), Гродзенскай - 28376 (на 7,1% ), Мінскай - 34 102 (на 7,6%), Магілёўскай - 23.074 (на 4,7%).

Па словах Анатоля Шумчанка, «дзяржава нас ва ўпор не бачыць. А грамадству між тым прадастаўляецца прыгожая карцінка праз дзяржСМІ. Прычым, прадпрымальнікаў лічаць, як было - па колькасці галоў. Ідзе проста канстатацыя фактаў: ІП у краіне столькі, падаткаў заплацілі столькі-то. Але такое стаўленне нас не задавальняе ».

Кіраўнік «Перспектывы» лічыць, што раз улады так заўзята імкнуцца даводзіць да прадпрыемстваў і чыноўнікаў планавыя паказчыкі, нядрэнна было б збянтэжыць чыноўнікаў і планавымі паказчыкамі па развіцці сектара ІП. «І хай яны даюць справаздачу, апраўдваюцца, чаму малы бізнэс у краіне не развіваецца», - адзначае Шумчанка.

Але чыноўнікі сёння заклапочаныя іншымі праблемамі, сярод якіх асабняком стаіць пытанне напаўнення бюджэту. І вырашаючы гэтае пытанне, чыноўнікі ніяк не могуць спрыяць развіццю прадпрымальніцтва. Бо грошы, а сумы-то не капейкавыя, выпампоўваецца як раз з малога бізнэсу. Якое тут развіццё?! І шматлікім чыноўнікам абсалютна фіялетава, што з-за зніжэння пакупніцкай здольнасці ў прадпрымальнікаў падаюць выручка і абаротны капітал.

«У Гомелі, напрыклад, у апошні час значна вырасла колькасць праверак. Праходзяць штодзённыя рэйды, выносяцца рашэння аб канфіскацыі тавараў за розныя парушэнні і налічваюцца велізарныя штрафы - ад 10 да 30 млн. рублёў », - распавеў прадпрымальнік з Гомеля Жанна Губкіна.

Па словах прадпрымальніка, такую актыўнасць правяраючых некаторыя ІП звязваюць з «Дажынкамі», якія, як чакаюцца, пройдуць у наступным годзе ў Гомелі. «Прайшла інфармацыя, што гораду трэба каля 450 млрд. рублёў, і гэтыя грошы будуць збіраць з ІП», - адзначыла Губкіна.

Гомельскія чыноўнікі, па словах Жаны Губкіна, знаходзяць і больш арыгінальныя спосабы канфіскацыі сродкаў у бізнэсу: «Напрыклад, прадстаўнікоў бізнесу, якія маюць гандлёвыя кропкі, у прыватнасці, крамы, размешчаныя побач са святлафорамі, абавязваюць гэтыя святлафоры абслугоўваць».

Прадпрымальнік патлумачыла, што святлафоры святлодыёдныя і, мабыць, не разлічаны на маразы, а таму часта выходзяць з ладу. Для горада іх абслугоўванне - гэта вялікія выдаткі. «Вось улады і вырашылі павесіць гэтыя святлафоры на бізнес, каб ён нёс гэтыя выдаткі», - падкрэсліла Губкіна.

**naviny.by**



Заснавальнік і рэдактар: Салодкі Сяргей Аляксандравіч

Адрас рэдакцыі: г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

Падпісана да друку 28.05.2012 у 17.45. Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.